BIELARUS

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $10.00 yearly.

„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Вышіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# КАНФЭРЭНЦЫЯ У ГЭЛЬСІНКАХ І БЕЛАРУСЫ

## ЗВАРОТ РАДЫ БНР ДА ПРЭЗЫДЭНТА ЗША

25-га ліпеня сёлета Рада Беларускае Народнае Рэспублікі на выгнаньні сьціравала да Прэзыдэнта ЗША Джэралда Форда гэткі ліст:

„Спадару Джэралду Форду, Прэзыдэнту Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, Старшыні амэрыканскае дэлегацыі на канфэрэнцыю ў справе бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе.
Фінляндыя Гол, Гэльсынкі,
Фінляндыя.

Дарагі Спадару Прэзыдэнт:

Мы ўсе ўсьведамляем, што ў гэтым часе вядуцца шырокія дыскусіі й перамовы паміж Заходнімі дэмакратыямі й Савецкім Саюзам з мэтаю ўстанавіць цясьнейшыя кантакты й супрацоўніцтва паміж Усходам і Захадам дзеля захаваньня міру й замацаваньня статус кво.

Адно настырлівае пытаньне, аднак, што будзе зь Беларусамі ды іншымі нерасейскімі народамі (з агульным жыхарствам 130 міліёнаў), якія былі заваяваныя й паняволеныя Савецкім Саюзам.

Ці ўрады й грамадзтва Заходніх дэмакратыяў гатовыя ўзяць на сябе адказнасьць за страчаньне свабоды й людзкіх правоў 130 міліёнаў людзей, замацоўваючы статус кво, прапанаваны Савецкім Саюзам?

Мы пэўныя, Спадару, што Вы поўнасьцяй разумееце трагэдыю, якая спасьцігне ня толькі 130 міліёнаў, але і ўсё чалавецтва, калі савецкія прапановы ў справе палітычнага й тэрытарыяльнага статусу кво будуць прынятыя без забясьпечаньня свабоды й правоў на самавызначэньне Беларусаў ды іншых нерасейскіх народаў.

Вось чаму мы й просім Вас, Спадару, як прадстаўніка гуманнасьці й дэмакратыі зрабіць усё, што ў Вашай моцы, каб папярэдзіць замацаваньне статусу паняволеньня Беларусі ды іншых нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу ды гарантаваць іхнюю свабоду ды іхныя людзкія правы.

Мы далучаем рэзалюцыю Трынаццатае Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі на выгнаньні, зь якое Вы самі можаце меркаваць пра цяжкі стан беларускага народу, у якім ён знаходзіцца пад савецкім рэжымам.

З глыбокаю пашанаю
В. Жук-Грышкевіч,
Старшыня Рады Беларускае
Народнае Рэспублікі на выгнаньні".

Лісты такога-ж зьместу былі сьціраваныя да ўсіх кіраўнікоў эўрапейскіх дэмакратычных дзяржаваў.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ Д-РА ЯНКІ ЗАПРУДНІКА

Газэта „Нью-Ёрк Таймс" за 6-га жніўня зьмясьціла пад загалоўкам „Гэльсынкі: незапрошаныя" ліст у рэдакцыю прафэсара гісторыі Квінсаўскага Каледжу ньюёркаўскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту Янкі Запрудніка. Падаём тэкст гэтага ліста:

„У ліку трыццаці пяцёх краінаў, прадстаўленых на канфэрэнцыі ў Гэльсынках, былі ўдзельнікі ад гэткіх малых дзяржаваў, як Ліхтэнштайн або Манака, да вялікіх звышдзяржаваў, але ня было сярод іх ані Беларусі (з жыхарствам блізу дзесяць міліёнаў) ані Ўкраіны (з жыхарствам пад пяцьдзесят міліёнаў), сяброў-заснавальнікаў ААН, дзяржаўныя межы якіх былі ладна зьмененыя ў выніку Другое сусьветнае вайны.

Савецкі ўрад цьвердзіць, што Беларусь і Ўкраіна — незалежныя дзяржавы, што гавораць самі за сябе на міжнародных канфэрэнцыях. Прыкладам, тыднёвік ,Голас Радзімы', што выдаецца ў Менску, але свабодна пашыраецца толькі ў Амэрыцы і па іншых заходніх краінах, пісаў у сваім ліпенскім нумары: „У мінулым годзе дэлегацыі або прадстаўнікі Беларускае ССР удзельнічалі амаль у 100 міжнародных сэсіях і канфэрэнцыях у рамках 58 міжнародных арганізацый і іх органаў".

Няўдзел Беларусі і Ўкраіны на канфэрэнцыі ў Гэльсынках пацьвярджае яшчэ раз, што запраўдныя пастановы, разам з важнымі фармальнасьцямі, што датычаць да Беларусі, становяць вылучную прэрагатыву Масквы. Дзіву даешся, у заключэньне, як могуць разьвязвацца пастановамі справы эўрапейскае бясьпекі й супрацоўніцтва, калі выключаецца зь беспасярэдняга ўдзелу ў гэтых пастановах шэсьцьдзесят міліёнаў быццам-бы незалежных Эўрапейцаў".

Ліст гэты быў перадрукаваны газэтамі „Новое Русское Слово" й украінскай газэтай „Свобода" ды прыхільна імі скамэнтаваны. Праўда, ліст гэты закранае адно адзін аспэкт пытаньня: незапрошаньне на Канфэрэнцыю ў Гэльсінках Беларусі й Украіны. Затое другі аспэкт, як мы бачылі, быў зьместам прыведзенага ліста Рады БНР да Прэзыдэнта ЗША, а таксама быў усебакова насьветлены ў цэлым сьцягу іншых выступленьняў замежных кіраўніцтваў паняволеных Савецкім Саюзам народаў, а таксама знайшоў шырокае адбіцьцё ў сёлетнім Тыдні Паняволеных Народаў у розных краёх Вольнага Сьвету. Таму да гэтага пытаньня вернемся яшчэ ў наступным нумары нашае газэты.

### СУСТРЭЧА ПРЭЗЫДЭНТА ДЖЭРАЛЬДА ФОРДА Й ДЗЯРЖАЎНАГА САКРАТАРА Г. КІСІНДЖЭРА З ПРАДСТАЎНІКАМІ НАЦЫЯНАЛЬНА-ГРАМАДЗКІХ ЭТНІЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ АМЭРЫКІ

Зь ініцыятывы кангрэсмэна Э. Дэрвінскага і з падтрымкай нацыянальных рэспубліканскіх клюбаў, 25 ліпеня адбылася працоўная сустрэча Прэзыдэнта Форда й Дзяржаўнага Сакратара Кісінджэра з прадстаўнікамі 14-ёх нацыянальных групаў Амэрыкі, прадстаўнікоў народаў, лёсы якіх закраналіся на Канфэрэнцыі ў Гэльсінках. На гэтую нараду былі запрошаныя ў Белы Дом прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі.

Пагляды Беларусаў амэрыканскага паходжаньня на сучаснае палажэньне сфармуляваў інж. Міхась Бахар віцэ-старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту, які, апрача агульнабеларускіх праблемаў, закрануў справу дыскрымінацыі „Голасам Амэрыкі" беларускае мовы.

## ПРА ХАЎТУРЫ Ў ГЭЛЬСІНКАХ

1-га жніўня сёлета ў Гэльсінках адбылася канфэрэнцыя, у якой прынялі ўдзел галовы 35-ці дзяржаваў Эўропы, Канада й ЗША. Афіцыйна назвалі яе Канфэрэнцыяй Бясьпекі Эўропы, а ў Канадзе многія называюць яе хаўтурамі ў Гэльсінках. Падпісалі там дакумант, які нікога не забавязвае, але які мае вялізную маральную вагу для Крамля, бо апрабуе ўсе забраныя ім гвалтам тэрыторыі падчас Другое сусьветнае вайны. У замен за гэта камуністычны блёк згадзіўся на вольны абмен інфармацыяў, культурны абмен і палёгкі сваім грамадзянам у падарожжах за межы. З папярэдняе практыкі нам ведама, як камуністыя трымаюцца розных падпісваных імі ўмоваў. Коратка кажучы, яны нічога не далі ў замен за апрабацыю заходнімі дзяржавамі іхных „непарушальных межаў", у тым ліку й усіх паняволеных народаў у іхным ярме.

У Тароньце беларускі пісьменьнік К. Акула ў нядзелю 27 чырвеня выступаў на працягу 15 хвілін на тэлевізіі, станцыя 79, дзе схарактарызаваў гэтак званы „дэтан" і гэтую апошнюю зраду паняволеных народаў заходнімі дзяржавамі. Сп. Акула выказаў думку, што падпісаная ўмова катастрафальна адаб'ецца на палітычнай будучыні вольных народаў. Шматлікія тэлефоны ад слухачоў выказвалі поўную згоду з думкамі нашага пісьменьніка.

Ягоны ліст на гэтую тэму быў зьмешчаны ў „Таронта сан" 29 чырвеня. У перадавіцы там-жа, пад загалоўкам „Паховіны ў Гэльсінках", між іншага, сказана: „Перад таронцкай ратушай заўтра пачнецца 72-гадзінная варта (пратэст) людзей, якія ведаюць, што ўмова азначае канец іхных мараў пра паварот некалі ў іхныя бацькаўшчыны: Эстонію, Латвію, Лятуву, Украіну й Беларусь ды іншыя паняволеныя народы Ўсходняй Эўропы, усе яны паняволеныя савецкай дзяржавай".

**К.**

# ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКАЙ МАЛАДЗЕЖНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

(Заканчэньне з першай бачыны)

лы з Атавы ды тры сталы фатаграфіяў і выданьняў, што адлюстроўвалі 25-цігадовую дзейнасьць маладзежнае арганізацыі.

Дзякуючы руплівасьці сп. Антона Маркевіча зь Беларускага Мастацка-Выдавецкага Клюбу „Пагоня", наведвальнікі мелі магчымасьць набыць сабе беларускія кнігі й кружэлкі.

## СПАРТОВЫЯ ЗМАГАНЬНІ МОЛАДЗІ

У сыботу 5-га ліпеня адбылося валейбольнае змаганьне дзьвюх саўтрывэрскіх і дзьвюх кліўлендзкіх камандаў на пляцы Беларускага Цэнтру ў Саўт Рывэры. У змаганьнях прынялі ўдзел каманды:

**„Нёман"** — (Саўт Рывэр 1) — Жорж Арцюшэнка (капітан), Боб Цупрык, Анатоль Каўтуновіч, Мікалай Вайцяхоўскі, Сьцяпан Махнач, Дан Кэньзік.

**Саўт Рывэр 2:** Алесь Орса (капітан), Віктар Казакоў, Тоні Катаніз, Альгерд Кажура, Антон Сільвановіч, Джон Гэйдж.

**Кліўленд 1:** Уладзімер Страпко (капітан), Жорж Патапенка, Віктар Страпко, Міхась Кулік, Лявон Кулік, Міхась Каваленка.

**Кліўленд 2:** Павал Васілеўскі (капітан), Віктар Васілеўскі, Андрэй Кананчук, Віктар Патапенка, Васіль Каваленка, Міхась Міраховіч.

Першае месца здабыла саўт-рывэрская каманда „Нёман", другое — Кліўленд 1. Усе валейбалістыя гралі вельмі добра й мелі шмат падтрыманьня збоку дзяўчатаў.

## БАНКЕТ І БАЛЬ

У сыботу 5 ліпеня а 7-ай гадзіне ўвечары адбыўся ўрачысты Банкет, які адчыніў новы старшыня Галоўнае Ўправы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Юрка Азарка. За прэзыдыяльны стол былі запрошаныя старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць, галоўны рэдактар газэты „Беларус" д-р Станіслаў Станкевіч, Архімандрыт а. Язэп Строк, а таксама заснавальнікі й першыя кіраўнікі маладзежнае арганізацыі сп. сп. Міхась Тулейка, Кастусь Калоша, Вячаслаў Станкевіч, Міхась Каранеўскі, Міхась Казьлякоўскі. На прапанову сп. Юркі Азаркі чаркі з шампанскім былі выпітыя ўсімі прысутнымі з нагоды юбілею ды было прапяяна „Сто год!" для Беларускай маладзежнай арганізацыі. Сп-чна Раіса Станкевіч прачытала прывітаньне ад няпрысутнага Яго Высакапраасьвяшчэнства Мітрапаліта БАПЦ Андрэя (тэкст друкуецца на іншым месцы). З прамовамі выступалі сп. А. Шукелайць, сп-чна Раіса Станкевіч, сп. М. Тулейка, д-р Ст. Станкевіч, праф. Даўман Газнэрс, сп. Сяргей Гутырчык, інж. Вячаслаў Станкевіч, сп. Антон Маркевіч, сп-чна Галіна Кананчук, сп. М. Каранеўскі й сп. М. Казьлякоўскі. На прапанову М. Казьлякоўскага ўсе прысутныя прапяялі ведамую патрыятычную песьню „Люблю наш край, старонку гэту".

У прамовах былі адзначаныя дасягненьні маладзежнай арганізацыі, заслугі ейных паасобных кіраўнікоў, вялікі й выдатны ўдзел моладзі ў беларускім нацыянальным адраджэньні й дзяржаўным будаўніцтве наагул, цяжкасьці, зь якімі сустракаецца моладзь у сваёй арганізацыйнай дзейнасьці ў Амэрыцы, заклікі да далейшае грамадзкае працы. Урыўкі зь некаторых прамоваў і прывітаньняў ніжэй падаюцца асобна, а прамова д-ра Ст. Станкевіча, зьвернутая ня толькі да моладзі, а й да старэйшага грамадзтва, будзе надрукаваная ў наступным нумары „Беларуса", як асобны артыкул. Пасьля ўрачыстага Банкету, адбыўся Баль пад мэлядыйныя гукі аркестры братоў Герасімовічаў.

Трэба з прыемнасьцяй адзначыць даволі вялікі ўдзел у юбілейных урачыстасьцях Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі прадстаўнікоў старэйшага грамадзтва й моладзі Саўт Рывэру й ваколіцаў.

**Я. З.**

*З ПРЫВІТАНЬНЯЎ І ПРАМОВАЎ*

## ПРЫВІТАНЬНЕ ЯГО ВЫСОКАПРААСЬВЯШЧЭНСТВА МІТРАПАЛІТА БАПЦ АНДРЭЯ

**Шчыра й сардэчна дзякую за запросіны на Справаздачна-Перавыбарны Зьезд Моладзі, які адбудзецца 4-га ліпеня.**

**Зь вялікаю ахвотаю хацелася-б быць разам з Вамі ў гэты дзень, бо-ж моладзь — наша будучыня. На працягу некалькіх год свае самаахвярнае працы Вы паказалі, што годна нясеце наш Сьвяты Сьцяг, зьместам якога ёсьць: Бог і Бацькаўшчына. Сярод Вас ёсьць адзінкі поўныя энэргіі, сілы й натхненьня, якія годна рэпрэзэнтуюць Беларускае нацыянальнае пытаньне. Таму я горача вітаю й багаслаўляю Ваш Зьезд, з надзеяй, што Вы правядзеце яго ў згодзе й любові, ды яшчэ з большым запалам пойдзеце наперад для дасягненьня далейшых плённых вынікаў на дабро ўсяму нашаму слаўнаму Беларускаму Народу. Дапамажы Вам Божа!**

**Зь любоўю ў Хрысьце**
**✠ Мітрапаліт Андрэй**

**25 чырвеня 1975**

## З ПРАМОВЫ РАІСЫ СТАНКЕВІЧ

„Я хачу сказаць пару слоў пра сяньняшнюю беларускую моладзь, зь якой мне давялося працаваць апошнія чатыры гады. Гэтая моладзь роджаная ўжо тут, у Амэрыцы. Я была сьведкаю, як выраблялася яна грамадзка, брала на сябе адказнасьць, як духова расла ў працы сваёй арганізацыі, пераймала вядучыя становішчы ў аддзелах, управах сваіх арганізацыяў, працавала й былі з гэтае працы вынікі. Рэпрэзэнтавала годна Беларусь ня толькі сваймі выступленьнямі з народнымі танцамі, але і ўдзелам у дэлегацыях да губэрнатараў і мэраў гарадоў, дапамагала ў ладжаньні выставак, у сьвяткаваньнях 25-га Сакавіка, прыймала ўдзел у парадах, у палітычных дэманстрацыях. Усяго ня пералічыш!

Мне даводзілася бачыць, як пераймаліся й хваляваліся ўдзельнікі танцавальных групаў перад выступленьнямі на інтэрнацыянальных фэстывалях, як глыбока перажывалі навет маленькую нейкую няўдачу, бо-ж яны гэта рабілі дзеля добрага імя Беларусі. Былі гатовымі заўсёды пасьля выступленьняў даць зацікаўленым інфармацыю пра Беларусь, пра народны танец, народную вопратку, сваю арганізацыю.

А ўсё-ж мне даводзілася чуць ня раз і крытыку нашае моладзі. Крытыка нам патрэбная й карысная й мы за яе дзякуем, калі яна зычлівая, выкрывае нашыя недахопы й дапамагае іх пазьбегнуць у будучыні. Але была й крытыка злосная, грэблівая й зьняважлівая, якая, заміж памагаць нам ісьці наперад, зьнеахвочвала некаторую частку моладзі й адбірала ў яе веру ў ейныя собскія сілы. Гэткую крытыку даводзілася пераважна чуць ад асобаў, што ня ведаюць сяньняшняй моладзі. Для іх, калі моладзь гаворыць ня вельмі добра пабеларуску або з акцэнтам, дык яна чужая беларускай справе й мала вартасная. Я ўважаю, што пакуль судзіць, не зашкодзіла-б тым асобам прыглядзецца бліжэй да нашае моладзі, пашукаць зь ёю кантакту, каб знайсьці ў ёй тыя пазытыўныя рысы, якія бязумоўна пераважаюць у нашай моладзі. Прыйшоў час, калі нашая моладзь не саромеецца сваёй нацыянальнасьці, наадварот, ганарыцца ёю. Моладзь нашая ў васноўным **беларуская,** у бальшыні сваёй яна ведае сваю беларускую мову, бо-ж некалькі гадоў наведвала беларускія школы. А здараецца й так, што, усьведаміўшы поўнасьцяй сваю прыналежнасьць да нашага народу, сама шукае больш вестак, больш дадзеных пра свой народ, пачынае прыслухоўвацца да гаворкі бацькоў і пераконваецца, што гэта ня так і цяжка, і пачынае спачатку нясьмела, але паступова сьмялей гаварыць пабеларуску, хоць і не дасканала спачатку, але адважна й шчыра.

Не адмоўнай крытыкі й абыякавасьці, а спагады й дапамогі чакаюць нашыя маладзежныя арганізацыі й іхныя сябры ад старэйшага грамадзтва ды супрацоўніцтва для дабра нашае беларускае грамады ў Амэрыцы".

## З ПРАМОВЫ МІХАСЯ ТУЛЕЙКІ

Адзін з найбольш заслужаных заснавальнікаў беларускай маладзежнай арганізацыі ў Амэрыцы ў 1950 годзе, тады як Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў ЗША, і першы даўгагадовы ягоны старшыня Міхась Тулейка ў сваёй грунтоўнай прамове зырка насьветліў першыя шляхі разьвіцьця беларускага маладзежнага руху ў Амэрыцы. Ён сьцьвердзіў, што моладзь, супольна із старэйшым грамадзтвам, заўсёды была ў віры нашага грамадзкага й нацыянальнага жыцьця.

Характарызуючы самыя апошнія гады дзейнасьці беларускай маладзежнай арганізацыі, сп. Міхась Тулейка сказаў:

„Вялікія дасягненьні ня робяцца адзінкамі. Таму тут можна было-б пералічыць дзесяткі асобаў — адданых нашых дзяўчат і хлапцоў, якія на працягу 25-ці год вялі нашую моладзь, не шкадуючы ні часу, ні высілку. Але нельга не адзначыць сп-чны Раі Станкевіч, якая да ўчарашняга дня ачольвала Арганізацыю Беларуска-Амэрыканскай Моладзі. Яна, як можа ніхто раней, узьняла імя нашай моладзі на высокі ўзровень, яна ўсёй душой і цэлам працуе ў імя моладзі, а гэтым самым у імя нашага народу. Яна была лучнікам нашага малодшага пакаленьня із старэйшымі, бо старалася ўсюды быць, дзе неабходна, з гледзішча на нашыя нацыянальныя інтарэсы. Думаю, што многія згодзяцца са мною, калі я назаву яе нашай маладой гераіняй".

Сваю гарачую прамову закончыў сп. Міхась Тулейка наступнымі словамі:

„Дарагая Моладзь!

Калі старшыя людзі глядзяць на малых дзетак — у іх адразу ўзьнікае радасная ўсьмешка. Калі-ж мы глядзім на моладзь, часам усьмешкі няма, яе заступае ўвага й надзея. „На цябе, наша моладзь, надзея", — сказаў наш вялікі паэта Янка Купала. На гэтыя словы напісаў прыгожую мэлёдыю сьв. пам. кампазытар Мікола Куліковіч. І ў запраўды, у гэтых словах вялікі зьмест, вялікая думка, вялікая праўда. Трымайце гэтыя словы ў сэрцах Вашых. Зразумейце гэтыя словы і аддайце гэтай праўдзе ўсё, што зможаце, каб жыла Моладзь, каб жыла Беларусь!"

*ШЧЫРА ВІТАЕМ ЯГО ВЫСОКАПРААСЬВЯШЧЭНСТВА*

**МІТРАПАЛІТА БАПЦ АНДРЭЯ**

*зь Ягоным падвойным юбілеем і жадаем Яму даўгіх год жыцьця, добрага здароўя й далейшае плённае працы на Славу Бога й Бацькаўшчыны!*

*Рэдакцыйная Калегія газэты „Беларус"*

## ПАДВОЙНЫ ЮБІЛЕЙ МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ



**Фрагмэнт зь Юбілейнае Божае Службы**

Зьверхніку Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на эміграцыі Ўладыку Андрэю 25 чырвеня сёлета споўнілася 25 год ягонае службы ля Сьв. Прастолу, а 3 ліпеня Ўладыка ўвайшоў у 75-ы год свайго жыцьця.

Рукапаложаны быў сяньняшні Мітрапаліт Андрэй 17 чырвеня ў сан дыякана, а 25 чырвеня 1950 году у сан сьвятара ў Ангельшчыне, дзе й распачаў арганізаваць рэлігійнае жыцьцё БАПЦарквы. Ня лёгкімі былі пачаткі, але дзякуючы Божай дапамозе й падтрыманьню сьведамага беларускага актыву, карэньні з працы трапілі ў добрую глебу й замацаваліся ў тых асяродках, дзе асела большая або меншая колькасьць Беларусаў. Але Божы провід кіраваў а. Аляксандра на шырэйшы рэлігійны шлях, і напачатку лютага 1961 году ён змушаны быў пакінуць мілых вернікаў у Ангельшчыне й пераехаць у Амэрыку. Але й тут нейкая няведамая сіла змусіла яго ехаць у Аўстралію й 15 лютага 1968 году прыняць япіскапскі сан.

У 1970 годзе раптоўна адыходзіць у вечнасьць Уладыка Васіль, а Ўладыку Андрэю прысуджана было абняць кіраўніцтва Епархіяй БАПЦ у Амэрыцы. Але ў 1971 годзе памірае Галава БАПЦарквы Ўладыка Сяргей, і на 2-ім Саборы БАПЦарквы было прысуджана Ўладыку Андрэю абняць кіраўніцтва ўсёю БАПЦарквою й нададзеная высокая годнасьць Мітрапаліта. Гэта кароткія весткі з рэлігійнай дзейнасьці да 1975-га юбілейнага году.

Ініцыятыву адзначэньня юбілейных угодкаў узяла на сябе Парахвіяльная Рада, якая й зрабіла належныя прыгатаваньні.

Галоўная ўрачыстасьць распачалася раніцай 25 чырвеня сёлета ў Саборы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе. Да важнасьці ўрачыстасьці далучыўся й прыезд Уладыкі Мікалая з Таронта, а . Аляксандра Яноўскага з Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі, і а. Максіма з Дэтройту. Пры ўваходзе ў царкву абодвых Уладыкаў з хлебам і соляй сустрэў царкоўны староста Адам Пракаповіч. Пад гукі звону й сьпеву „Дастойна ёсьць" Уладыкі ўвайшлі ў Сабор, каб разам з духавенствам у асысьце Протадыякана Міхася Страпка адправіць Сьв. Літургію ўдзячнасьці для Юбіляра Мітрапаліта.

Цудоўна сьпяваў царкоўны хор, які сабраўся ў поўным складзе. А прафэсійнае і ўмелае кіраўніцтва хорам сп. Кастуся Кіслага проста чаравала прысутных. Цудоўны Іканастас, нанава пазалочаныя рыпіды, „дарахраніцельніца" і запрастольны крыж, Багаслужба Архірэйскім чынам — усё гэта разам стварала ўзвышаны настрой у сэрцах малельнікаў, якімі быў перапоўнены Катэдральны Сабор. Пасьля Сьвятой Літургіі для Юбіляра быў адпраўлены Малебен удзячнасьці з выражэньнем мнагалецьця, а на заканчэньне хор і ўсе прысутныя прапялі малітву „Магутны Божа".

Пасьля Божае Службы ў царкоўнай залі, куды перайшлі ўсе вернікі з царквы й духавенства, беларускія жанчыны падрыхтавалі шчодры абед. Тут, прывітаўшы прысутных і падзякаваўшы жанчынам за добра падрыхтаваны абед, сп. К. Калоша папрасіў Уладыку Мікалая пераняць кіраўніцтва юбілейным банкетам. Паблагаславіўшы сталы, Уладыка Мікалай у сваёй прамове пазнаёміў прысутных з абставінамі, у якіх змушаны быў працаваць рукапаложаны а. Аляксандар у Ангельшчыне.

Зь іншых прамоваў на асаблівую ўвагу заслугоўвала гарачая прамова ўкраінскага сьвятара Пратаярэя Хведара Каваленкі й Мітрафорнага Пратаярэя царквы Сьв. Уладзімера а. Сьцяпана Ганькевіча. Асаблівую авацыю выклікаў, паднесены Ўладыку Спадарствам Панаманэнкамі, прыгожы вянок кветак із сьвечкамі й іконкамі, і прамова сп. Панаманэнкі. Далей прамаўлялі: Старшыня Парахвіяльнае Радя Ўкраінскай Парахвіі Сьв. Тройцы сп. Рожнятоўскі, сп. М. Ягаўдзік, д-р Язэп Сажыч, а. Аляксандар Яноўскі, інж. С. Махахэй, сп. К. Кіслы, сп. В. Семянчук і сп. П. Кошкода.

Былі прачытаныя тэлеграмы й прывітаньні ад наступных асобаў, установаў і арганізацыяў: ад а. Георга Дйонліча з Аўстраліі, старшыні Рады БНР В. Жук-Грышкевіча, ад Галоўнай Управы БАЗА — старшыні А. Шукелайця, д-ра Янкі Запрудніка, ад Галоўнай Управы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі — старшыні Юркі Азаркі, Архімандрыта а. Язэпа Строка, Пратапрасьвіцера А. Смаршчка, Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, ад Пратаярэя а. А. Кулакоўскага й ад Парахвіі Сьв. Антонія, Яна й Еўстафія ў Мэльбурне, ад Пратаярэя а. Янкі Абабуркі з Манчэстару (Ангельшчына), Рады Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы ў Вялікай Брытаніі й сп. Янкі Калбасы, ад а. Янкі Пякарскага й 21 верніка з Ангельшчыны, Пратаярэя а. М. Мігая Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку а. Аляксандра Яноўскага й старшыні Мікалая Войтанкі, ад інж. М. Гарошкі, сп-ства Кахаяноўскіх з Кліўленду, сп. Гралеўскага й сп. Чэры, сп. М. Баяроўскага й сп. В. Косарава.

Наапошку слова ўзяў Уладыка Андрэй. Ён падзякаваў усім тым, што працавалі пры падрыхтоўцы й зарганізаваньні юбілею, за глыбокага зьместу прамовы й шчодрыя зычэньні, ды ўсім тым, што ўшанавалі сваёй прысутнасьцяй юбілей, ды выказаў яшчэ адно пажаданьне: каб дачакацца яшчэ аднаго новага Япіскапа для БАПЦарквы.

Трэба зазначыць, што юбілейнае сьвяткаваньне прайшло ўрачыста, дастойна й шматлюдна, бо царква была па берагі перапоўненая вернікамі, а ў залі не хапіла месца для жадаючых быць прысутнымі на абедзе, і з гэтае прычыны некаторыя змушаныя былі вярнуцца дамоў.

Усё гэта сьветчыць пра тое, што 25-цігадовая праца Ўладыкі Андрэя на рэлігійнай ніве ўкаранавалася посьпехам, дала добрыя плёны й прыклад, як трэба любіць, шанаваць і бараніць сваю нацыянальную Царкву, як Сьвятыню зь ейнымі гістарычнымі й культурнымі здабыткамі.

**Абсэрватар**

## ПАДЗЯКА

Ня маючы магчымасьці асабіста зляжыць шчырую падзяку ўсім, што з нагоды 25-цігодзьдзя маёй працы на рэлігійнай ніве, вусна або на пісьме прыслалі прывітаньні або зляжылі ахвяру ці спрычыніліся сваёй дапамогай у арганізаваньні юбілейнае ўрачыстасьці, я гэтым за пасярэдніцтвам газэты „Беларус" складаю шчырую падзяку.

Няхай Госпад Бог узнагародзіць Вас у тысячу разоў.

Зь любоўю ў Хрысьце Ісусе

☩ **Мітрапаліт Андрэй**

## БЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА НА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫМ ФЭСТЫВАЛІ








У папярэднім 219-ым нумары „Беларуса" была зьмешчаная справаздача з удзелу беларускіх арганізацыяў і мастацкіх групаў Нью Брансьвіку й Саўт Рывэру ў інтэрнацыянальным фэстывалі ў Мідлэсэкс, Нью Джэрзі. Сярод іншых удалых беларускіх выступленьняў у фэстывалі зьвяртала на сябе ўвагу Выстаўка беларускага народнага мастацтва, якую зарганізавалі сп-ня Галіна Русак, сп-ня Людміла Махнюк і сп. Юрка Станкевіч. З увагі на вялікае багацьце экспанатаў Выстаўкі, сабраных ад беларускіх жанчынаў Саўт Рывэру, Нью Брансьвіку й навет Нью Ёрку, ды на ейнае ўмелае й густоўнае ўладжаньне, гэтта, у дадатак да надрукаванае ў мінулым нумары справаздачы, зьмяшчаем фатаздымкі, што прадстаўляюць сабой тры фрагмэнты Выстаўкі беларускага народнага мастацтва й друку.

*У СУРОДЗІЧАЎ НЬЮ ДЖЭРЗІ*

## ЗАКАНЧЭНЬНЕ ЗАНЯТКАЎ У БЕЛАРУСКАЙ СЫБОТНЯЙ ШКОЛЕ

7-га чырвеня сёлета адбылося ўрачыстае заканчэньне заняткаў у Беларускай Сыботняй Школе ў Гайлэнд Парку.

Пасьля апошніх лекцыяў у гэтым навучальным годзе стараньнем Бацькоўскага Камітэту Школы быў наладжаны пачастунак для вучняў і настаўнікаў. Да бяседы, якая пачалася малітваю, далучыліся сябры Бацькоўскага Камітэту ды прысутныя бацькі дзяцей. У выказваньнях да вучняў і бацькоў а. Аляксандар Яноўскі й сп. Васіль Русак адзначылі дасягненьні й недахопы ў працы школы ў мінулым годзе ды коратка спыніліся на плянах на будучыню. Усе пагадзіліся на адным, што школа мае вялікае значаньне для ўзгадаваньня маральнага, здаровага й гордага маладога беларускага пакаленьня ў Амэрыцы ды што царква й беларускія арганізацыі не павінны шкадаваць на гэтую мэту ні часу, ні захадаў, ні матарыяльных сродкаў.

У школе сёлета навучалася каля сарака вучняў у трох групах векам ад 6 да 16 год. Настаўнікамі ў школе працуюць: а. А. Яноўскі, сп. В. Русак, сп-ня А. Лук'янчык, сп-ня А. Лысюк і сп. Юрка Станкевіч.

### ЦАРКОЎНАЯ МЁЎКА

Сястрыцтва Парахвіі Жыровіцкай Божай Маці 8 чырвеня сёлета ладзіла сваю маёўку. Сяброўкі Сястрыцтва падрыхтавалі шмат смачных стравaў. Маёўка гэтая была аднэй з найлепшых, што былі калінебудзьладжаныя Парахвіяй. Гэта была прыемная й вясёлая імпрэза для ўсіх на ёй прысутных і прынесла добры даход у касу Сястрыцтва.

### ВЫСТАЎКА СТ. ТАМАРЫ-СТАГАНОВІЧ

Ад 9 да 27 чырвеня сёлета выстаўляліся працы нашай выдатнай прафэсіяльнай мастачкі Ст. Тамары — сп-ні Тамары Стагановіч — Кольба ў Публічнай Бібліятэцы Вудбрыдж, Нью Джэрзі. Ст. Тамара працуе ў жанрах рысунку, літаграфіі, дрэварыту, адбіткаў зь мядзянай формы й алейнага малюнку. Ейныя працы былі паказаныя ўва ўсіх гэтых жанрах — усяго 58 працаў.

У творах мастачкі адлюстроўваецца вялікая ейная здольнасьць паказаць прыгажосьць і веліч прыроды, расьліннага й жывёльнага сьвету. Дасканалая тэхніка характэрная для творчасьці Ст. Тамары. У рысунку й графіцы яна патрапляе аддаць найменшую дэталь і дамінантнасьць расьлінаў, кветак і розных зьвяркоў. У галіне графікі мастачка была ня раз узнагароджваная мэдалямі й ганаровымі адзначэньнямі арганізацыямі нацыянальнага характару.

На прыняцьці, ладжаным для мастачкі ў Бібліятэцы Вудбрыдж 12 чырвеня, было шмат Беларусаў зь Нью Ёрку й Нью Джэрзі.

### УДЗЕЛ МОЛАДЗІ Ў ТАРОНЦКІМ „КАРАВАНЕ"

Стараньнем Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Нью Джэрзі была зарганізаваная паездка моладзі ў Таронта, Канада, для ўдзелу ў Інтэрнацыянальным Фэстывалі „Караван". Езьдзіла ў Канаду дванаццацёх сяброў маладзежнай арганізацыі на чале зь ейным старшынём Ганнай Бойчук. Суправаджалі моладзь а. Аляксандар Яноўскі й сп. Васіль Бойчук. Быў наняты адмысловы аўтобус, які сфінансавалі мясцовыя арганізацыі: Парахвія, БАЗА, Вэтэраны й сама маладзежная арганізацыя. У гэтым-жа часе былі ў Таронта й прыймалі актыўны ўдзел у „Караване" Юрка й Ларыса Курылы з Вэствуд, Нью Джэрзі.

Нашая моладзь прабыла ў Тароньце дзесяць дзён, пачынаючы ад 23 чырвеня. Яна танцавала й пяяла й гэтым шмат спрычынілася да посьпеху Беларускага павілёну „Менск". Беларуская калёнія Таронта адудзячылася нашай моладзі сваёй гасьціннасьцяй, якой моладзь ніколі не забудзе.

### МАЛЮНАК ГАЛІНЫ РУСАК У БЮЛЕТЭНІ „ВІЛЬСОН ЛАЙБРЭРЫ"

„Вільсон Лайбрэры Бюлетэн" памясьціў на франтовай вокладцы рэпрадукцыю абраза сп-ні Галіны Русак пад загалоўкам „Купальле". Кароткі біяграфічны нарыс пра мастачку зьмешчаны ў тэксьце бюлетэню.

### ДАЛЕЙШЫЯ АХВЯРЫ НА ПОМНІК БЕЛАРУСКІМ ГЭРОЯМ-ЗМАГАРОМ

1. Д-р Я. Сажыч — $150, 2. Д-р Ул. Набагез — 100, 3. а. Ул. Рыжы-Рыскі — 100, 4. Д-р Р. Жук-Грышкевіч — 100, 5. С. і Л. Гутырчык — 100, 6. Д-р В. Тумаш — 50, 7. Ф. Бартуль — 50, 8. Я. Гуткоўскі — 50, 9. а. М. Страпко — 40, 10, С. Грамыка — 30, 11. В. і М. Пашкевічы — 25, 12. А. Кабяка — 25, 13. А. і Н. Непеін — 25, 14. А. Шастак — 20, 15. Ул. Круцько — 20, 16. Ю. і Ул. Бессоніў — 20, 17. Ул. Сьліўка — 20, 18. Я. Груцько — 20, 19. Д-р Я. Запруднік — 20, 20. Г. Макоўскі — 20, 21. Ул. Марчанка — 20, 22. Я. і В. Канарчук — 20, 23. Прат. а. В. Кендыш — 15, 24. П. Трубіла — 15, 25, Ул. Лосік — 10, 26. Л. Лютаровіч — 10, 27. Аляксандра Русак — 10, 28. Н. Лапушынскі — 10, 29. П. Раманоўскі — 10, 30. Г. Латышонак — 10, 31. Н. Крашэн — 10. Разам $ 1,125.00.

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі шчыра дзякуе ўсім ахвярадаўцам і заклікае іншых пайсьці за іхным прыкладам. Працяг ахвяраў у наступным нумары газэты „Беларус".

# „КАРАВАН" І „МЕНСК"

У нядзелю 22-га чырвеня сёлета шырака адчыніліся дзьверы гасьціннага беларускага павілёну Менск, аднаго з 55 этнічных павілёнаў у ведамым таронцкім Караване. Заходзьце, госьці, свае й чужыя, блізкія й далёкія, частуйцеся за нашымі сталамі беларускімі стравамі, прыглядайцеся да народных танцаў у выкананьні нашай бадзёрай моладзі, ацэньвайце народнае мастацтва, распытвайцеся пра сталіцу й народ, што сяньня ў „вялікай дружалюбнай сям'і" задыхаецца ад недахопу волі, церпіць нячуваныя зьдзекі пад чужой антычалавечай навалай.

Нехта кагадзе сказаў, што канадыйскі ўрад дае сваім рознанацыянальным групам больш вольнасьці й больш рупіцца пра разьвіцьцё іхных культураў, чымся тыя „найгуманьнейшыя з гуманных", што нараджаюць у Крамлі нясупынныя патокі прапаганды пра „вялікую дружбу народаў" і „нячувана расквітнеўшыя" культуры ў „вялікай адзінай сям'і" пад наглядам старэйшага брата. Параўнаньне даволі пікантнае. Там, дзе ўсё яшчэ даганяюць і пераганяюць, будуюць дый можа й пабудуюць, там падразаюць здаровае нацыянальнае карэньне, глушаць усё тое, што не падпарадкоўваецца няжыцьцёвай догме „роднай партыі". Канада-ж ня толькі дае сваім нацыянальным групам найбольшыя й проста залатыя вольнасьці для разьвіцьця, але ўсе ўрады падкідаюць яшчэ даляры на помач, заахвочваюць, спанукаюць. Гэтта вольнаму воля. Разьвівайся, расьці, мужней, квітней!

Адно некаторым сьціплыя сілы замінаюць. І ўсё-ж намагаюцца, цягнуць, арганізуюць. У нас, як ведама, упраглася ў вялікі караванны воз нашая моладзь і вось цягне ўжо яго чацьверты год.

І сёлета яна гаспадарыла. На помач таронцкай Танцавальнай Групе „Лявоніха" падасьпела Танцавальная Група „Васількі" Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Нью Джэрзі. Яна часта й цудоўна выконвала „Вяночак" і „Мікіту", а таронцкая моладзь — „Лявоніху". Як і летась, брат і сястра Юрка й Ларыса Курылы цешылі слухачоў сваймі дуэтамі-сьпевамі, а сп. Курыла добра знаёміў гасьцей з праграмай на сцэне, даваў цікавыя камэнтары пра Беларусь. Да танцаў падыграваў на акардэоне малады Андрэй Рагуля.

Сёлета, як выглядала, лепш зарганізавалася кухня. Больш было кухарак (прабачце, дзяўчаткі, калі мо неадпаведна назваў вас), а да сталоў падносілі харчы й напіткі прыгожа апранутыя ў нацыянальную вопратку дзяўчаты.

У выстаўку народнага мастацтва, як і летась, увайшлі тканіны, вырабы з саломкі, часткова разьба й вышываньне. Два купленыя стэляжы й палепшанае асьвятленьне дало выстаўцы эстэтычны твар. Дываном, ручніком, лялькам, бабе Еўцы й дзеду Тамашу параскашнела ў прасторы за кошт двух зьліквідаваных сталоў „Пагоні", дзе мінулымі гадамі прадаваліся кнігі на ўсіх мовах, пераважна-ж беларускай, кружэлкі музыкі, шкатулкі з саломкі й іншае. Пры гэтых сталох было заўсёды найбольш людна й галасна. Тут даводзілася адказваць на сотні пытаньняў пра Беларусь, ад людзей нам зычлівых, а часта й варожых суседзяў.

За тры тыдні перад адкрыцьцём Каравану я даведаўся ад старшыні ЗБМК сп. П. Пашкевіча, што „моладзь пастанавіла наладзіць выстаўку кніг пра Беларусь адно ў ангельскай мове". На маё пытаньне, чым такая пастанова матывавалася, ён адказаў, што моладзь хоча зрабіць накш, пасвоему, палепшыць леташняе й гэтак далей. Калі-ж далей пачаў даходзіць пра легальнасьць такой пастановы й чаму ліквідаваўся ўдзел аднэй заслужанай арганізацыі, атрымаў адказ, што „Пагоня" не належыць да Беларускага Каардынацыйнага Камітэту, бо . . . не заплаціла складак.

„Пагоня" выдала ліст да сваіх сяброў і суродзічаў, дзе выясьнялася, між іншага, што „выключэньне беларускіх друкаў з выстаўкі ёсьць таксама нясумяшчальнае з духам акцыі ўсіх канадыйскіх урадавых дзейнікаў, якія якраз заахвочваюць у праграме шматкультурнасьці да вывучэньня родных моваў і ўтрыманьня сваіх культураў".

Ці то ў выніку гэтай акцыі „Пагоні", ці іншых мяркаваньняў, на выстаўцы, побач сьціплага ліку англамоўных матар'ялаў, зьявілася й пэўная колькасьць кнігаў і альбомаў у беларускай мове. Характэрна, што ня было там ніводнай кнігі з выдавецтваў „Бацькаўшчыны" й „Пагоні".

Музыка із стужкі й кружэлкі гэта ня тое, што мэлёдыі з інструмантаў прысутнай аркестры. Мінулымі гадамі сп. Б. Лішчонак граў у павілёне Менск з адным памочнікам (мандаліна й акардыён). Сёлета Рагуляў хлапец падыйгрываў да танцаў. Апроч таго граў патэфон. Казалі, быццам Лішчонак захацеў зашмат. Гэта ня наша справа. Адно сьцьвердзіць трэба, што датарнаваныя ім да аркестры беларускія песьні й танцы ў выкананьні Лішчонка гэтта-ж на залі рабілі, як сказаць, запраўднае жыцьцё, добра дэманстравалі беларускую музыку й дадавалі куды больш весялосьці.

Сёлета, на нашу думку, гаспадары Менску зрабілі яшчэ адзін вялікі промах. Таму, што год сёлетні абвешчаны інтэрнацыянальным годам жанчыны, можна было даць стаянку адну ці дзьве пра выдатных беларускіх жанчынаў, такіх прыкладна, як Цётка, Арсеньнева, Вольга Корбут, Валянтына Цярэшкава й іншых. Асабліва шмат сказала-б выстаўка пра маладую гарадзенскую гімнастку, якую ведае цэлы сьвет.

І думкі на будучыню. Ужо чатыры гады працаваў падчас тыдня Каравану павілён Менск. У васноўным была тая самая праграма, тыя самыя харчы, тая самая выстаўка. Праўда, леташняя выстаўка акцэнтавала й наша малярства на эміграцыі (асабліва сп-ні І. Сурвілы), але народнае пераважала. Ці ня варта было-б, калі дасьць Бог і налета такую магчымасьць (а сілаў у нас хопіць, абы згода была!) знайсьці новыя тэмы. Бязумоўна, адна думка трымаецца таго, што заданьнем павілёнаў Каравану ёсьць перадусім паказаць свой фальклор ува ўсіх яго відах. Але, каму як каму, а нам Беларусам, пра каторых так мала ведаюць, а бальшыня наведвальнікаў лічыць нас нейкім хвосьцікам „Рашы", варта было-б паставіць перад чытачом шырэйшыя гарызонты. Гісторыю твораць людзі, а таму варта было-б паказаць і нашых выдатных людзей з усіх галінаў, дый тых нашых сыноў і дачок, што падчас таго, як іх бацькаўшчына была ў няволі, выраслі й прынесьлі вялікія ўклады ў гаспадаркі й культуры іншых краінаў сьвету. Прыкладам, на спэцыяльнай вітрыне, пад загалоўкам „Яны выраслі з нашага карэньня", з адпаведнымі цытатамі й камэнтарамі, можна было-б зьмясьціць Дамэйку побач Судзілоўскага-Расэла, Манюшку побач Глінкі, Дастаеўскага побач Міцкевіча, Цярэшкаву побач Корбуцішкі й іншых. Няхай нас ня трывожыць тое, што мо каторыя зухаватыя суседзі прыбеглі-б нам махаць пальцамі пад нос за іхнага „вешча" . . . Мы вось даўно пераступілі парог „у людзі" й няма чаго абмяжоўвацца аднымі дыванчыкамі, абрусамі, ручнікамі, зубрамі й цымбаламі, а варта паказаць, што корань беларускага дуба рос праз вякі, што ніякая навала нас ня выкараніць і што шмат якія з нашых сыноў і дачок усьпяліліся на вяршыні людзкой думкі, хоць некаторым зь іх, ня зь іхнай-жа віны, даводзілася тварыць у чужых мовах і для чужых паноў . . . Адылі яны ня выракліся народу нашага, дык ці маем мы права выракацца іх?

Агулам, гаворачы пра сёлетні павілён Менск, трэба прызнаць, што дзейнасьць і праграма былі зарганізаваны добра. Беларусы Таронта, асабліва-ж наша мясцовая й суседняя моладзь, дадалі яшчэ адну добрую бачыну ў кнігу сваіх дасягненьняў. Спадзявацца трэба, што гаспадары заўважылі свае памылкі, што ў супрацоўніцтве зь іншымі пастараюцца яшчэ лепш зрабіць налета. Гэтак памажы вам, Божа!

**К. Акула**

---

**СЬВЯТОЙ**  **ПАМЯЦІ**

## ІРЭНА МІКУЛІЧ

**Прыхаджанка прыходу Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе, падпісчыца газэты „Беларус", раптоўна адыйшла ў вечнасьць 25 чырвеня 1975 г., пражыўшы 80 гадоў.**

**Пахаваная на Магільніку Саўт Рывэр, Кліўленд, ЗША, пра што з глыбокім сумам паведамляюць**

**СЫН РЫГОР МІКУЛІЧ, ДОЧКІ ВАЛЯ ЯГАЎДЗІК, АЛЕНА РАДЗЮК і НІНА САВІН**

---

**СЬВЯТОЙ**  **ПАМЯЦІ**

## МІКОЛА СІЛЬВАНОВІЧ

**народжаная 9 красавіка 1917 году ў вёсцы Вірадова Менскае акругі, адыйшоў на вечны супачынак 13 ліпеня 1975 г. у Вініпэгу, Канада, дзе й пахаваны 17 ліпеня 1975 г., пра што з глыбокім сумам паведамляюць:**

**Згуртаваньне Беларусаў у Манітобе,**
**Беларускі Вызвольны Фронт у Канадзе,**
**Прыяцелі й Сям'я Нябожчыка.**

**Няхай будзе лёгкай Яму Канадыйская зямелька!**

**Нябожчык займаўся пісьменствам, журналістыкай, пісаў шмат у газэты пад псэўдонімам Вярба й наагул быў актыўным сябрам усяго беларускага жыцьця.**

---

**Заміж вянка на магілу Сьвятой Памяці Міколы Сільвановіча складаем на газэту „Беларус" на $ 10.00.**

**Уладзімер Гуцько й Іван Бурдзь**

---

# ЗАКАНЧЭНЬНЕ ШКОЛЬНАГА ГОДУ Ў НЬЮ ЁРКУ



15-га чырвеня сёлета Беларуская Сыботняя Школа ў Нью Ёрку, якая праводзіла свае заняткі ў памешканьні Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага на Джамэйцы, адзначыла заканчэньне 1974 — 75 навучальнага году адмысловай мастацкай праграмай. У саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Атлянтык авэню, пасьля Божае Службы а. Карп, які прыехаў з Дораты, Нью Джэрзі, дзе ён настаяцелем парахвіі БАПЦарквы, адслужыў адмысловы малебен з гэтае нагоды. Ён прамовіў да дзяцей, як добры пастыр, прыгадваючы ім, каб шанавалі й слухалі сваіх бацькоў, але таксама шанавалі й слухалі сваіх настаўнікаў, якія, толькі дзеля іхнага дабра ахвярна працуюць, пасьвячаюць свой вольны час, каб заклясьці ў сэрцах любасьць да свае мовы, да свайго народу. Ён таксама заклікаў бацькоў, каб прыводзілі дзяцей у царкву, бо малітва дзяцей асабліва прыемная Богу.

У залі пад царквой пасьля перакускі ў буфэце, падрыхтаванай Царкоўнай Радай, адбылася дзіцячая самадзейная праграма.

Коратка пра працу школы расказала настаўніца З. Станкевіч. Школа мела тры групы: дзіцячы садок (настаўніца Р. Станкевіч), 1-ую клясу (настаўніца З. Станкевіч) і 2-ую клясу (настаўніца В. Бартуль). Дапамагалі ў працы школы д-р А. Орса-Рамано, якая вяла сьпеў і заступала часамі настаўніцу 2-ой клясы, і сп-ня В. Заморская, калі заходзіла патрэба. Супрацоўніцтва з бацькамі было вельмі добрае. Вучням школы Вінцуку Мерляку й Антону Бартулю былі вынесеныя пахвалы за выдатнае наведваньне школы (першы не прапусьціў ніводнага дня, а другі толькі два дні з прычыны хваробы).

Школьная праграма распачалася прапяяньнем песьні „Беларусь, наша маці краіна" (глядзі фота). У праграме былі вершы. Вучаніцы дзіцячага садку Ніна Заморская прыгожа сказала вершык „Дожджык", а Нэнсі Захаркевіч таксама вельмі добра вершык „Кіска". Прадэкламаваў верш Алеся Гаруна „Ты мой брат, каго звяць Беларусам" вучань першае клясы Вінцук Мерляк. Таня й Ніна Заморскія засьпявалі выдатна беларускую народную песьню „Ручнікі", а ўсе дзяўчаты разам засьпявалі яшчэ „Дзіцячую Лявоніху" (сьпявалі: Таня й Ніна Заморскія, Нэнсі й Крыся Захаркевічы).

Пасьля кароткага перапынку была пастаўленая п'еска „Мушка-Зелянушка і Камарык-Насаты Тварык" на словы Максіма Багдановіча. Чатыры аўтары ў беларускай народнай вопратцы вельмі добрай мовай прыгожа прадэклямавалі свае часткі (Антон Бартуль, Коля Рамано, Вінцук Мерляк і Пятрусь Захаркевіч). Галоўныя артыстыя Мушка — Таня Заморская і Камарык — Паўлік Рамано зьдзівілі гледачоў сваёй ігрой, а Паўлік вельмі прыгожа засьпяваў аб горкай долі Камара песьню „Ой, палын ты, палыночак". Усе госьці на сцэне гучна згулялі вясельле (госьці: Нэнсі Захаркевіч — Матыль, Антон Бартуль — Хрушч, Крыся Захаркевіч і Ніна Заморская — бацькі маладой, Вінцук Мерляк — сват) і адскакалі вясёлую Лявоніху, ведама, як на вясельлі.

Праграма была ўдалая, гледачы не шкадавалі воплескаў і выказвалі сваё задаваленьне. Таксама хваліў дзяцей, іх прыгожую беларускую мову а. Карп, які з Паважанай Матушкай і з сваім а. дыяканам Сьцяпанам Трубілавам ды ягонай Спадарыняй засталіся на нашай урачыстасьці, дарма, што іх чакала больш за трохгадзіннае падарожжа дамоў у Дораты. За гэта ім шчырая падзяка. Шкада толькі, што бацькі, дзеці якіх не наведваюць беларускай школы, ня прыйшлі й ня прывялі сваіх дзяцей. А выпадала-б гэта зрабіць. Бо ня ёсьць галоўным забясьпечыць сваіх дзяцей матарыяльна і за працаю дзеля гэтага занядбоўваць нешта больш важнае, больш патрэбнае.

Здавалася-б, што наш школьны год закончыўся радасным пачуцьцём выкананага абавязку, каб не адзін малы інцыдэнт. Ужо зусім пры канцы, калі людзі пачыналі разыходзіцца, былі раздадзеныя бацьком вучняў паперкі, у якіх Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага дамагалася ад бацькоў заплаты за ўжываньне ейнага памешканьня школаю. І было цяжка зразумець, чаму без паведамленьня пра гэта кіраўніцтва школы, ані бацькоў сваячасова, ані навет Акруговай Управы БАЗА, пры якой вось ужо больш за 20 гадоў існуе нашая школа і ад якой ніколі ані Царкоўная Ўправа, ані і тая-ж Фундацыя ня бралі ў мінулым аплаты, чаму якраз сяньня на заканчэньне школьнага году мы сустрэліся з гэткай неспадзеўкай? І калі навет гэтым разам Управа Фундацыі пастанавіла браць аплату за карыстаньне ейнага памешканьня, то ўсё-ж былі магчымасьці палагодзіць гэтую справу сваячасова й паводля адпаведнага адрысу, паведаміўшы ў першую чаргу кіраўніцтва школы, бо-ж нічога не казалі бацьком настаўнікі, вэрбуючы іхных дзяцей у школу. пра гэтую аплату.

Часта чуюцца пры розных нагодах патэтычныя заявы пра патрэбу навучаньня дзяцей у роднай мове, часта даюцца розныя парады, як гэтую справу палепшыць, а ў штодзённай практыцы нашая школа не заслужыла навет крыхі ўвагі, каб падыйсьці да яе на ўзроўні, і нам настаўнікам было крыўдна.

**З. Станкевіч — настаўніца**

---

# ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў САУТ РЫВЭРЫ

8 чырвеня сёлета Беларуская Праваслаўная Царква Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, Нью Джэрзі, сьвяткавала Дзень сваёй Патронкі. У сыботу 7 чырвеня была адслужаная Вячэрня з Утраняй. А ў нядзелю 8 чырвеня Сьвятая Літургія й Малебен Сьвятой Еўфрасіньні была адслужаная настаяцелем а. Пратапрасьвіцерам Мікалаем Лапіцкім у суслужэньні а. Архімандрыта Язэпа Строка й а. Пратадыякана Алега Махнюка.

Папаўдні адбылася парахвіяльная маёўка з багатай мастацкай праграмай у сваёй собскай залі. Сястрыцтва пад кіраўніцтвам ейнага старшыні сп-ні Рэні Касьцюк падрыхтавала па зусім даступных цэнах смачны абед і багаты буфэт.

Ужо на працягу больш году Сястрыцтва зарганізавала гурток моладзі, якога была ініцыятаркай і якім аддана кіруе сп-ня Ніна Орса. Апрача вышываньня, сп-ня Орса кажны чацьвер займаецца чытаньнем вершаў, казак і падрыхтоўкай да сцэны. Вынікам гэтае працы якраз была ўдалая дзіцячая пастаноўка ў часе маёўкі. Вяла праграму Ліля Касьцюк. Была паказаная інсцэніроўка „Долі Батрачкі" Якуба Коласа, у якой прынялі ўдзел сёстры Лена й Каця Гайшун і Галя Бахар. Пратанцавалі з адначасным падпяваньнем „Дзіцячую Лявоніху" сёстры Ната й Маргарыта Літаровіч, Кім Лоер, сёстры Каця й Лена Гайшун, Галя Бахар і Алеся Гэтман. Акампаньяваў на піяніне Коля Бахар. Коля й Галя Бахар прайгралі на піяніне дуэт і салёвыя нумары.

Апрача канцэртнай праграмы, была наладжаная выстаўка Вышывальнага дзіцячага гуртка, на якой былі выстаўленыя па некалькі вельмі прыгожых і ўдалых экспанатаў усіх вышэй згаданых дзяўчат, адзінага хлапца Колі Бахара, а таксама Наты Хмура й Галіны Манцывода. Наагул сяброўкі й сябры гуртка вельмі добра ўзбагацілі сёлетнюю маёўку ўсім на радасьць і пацеху.

Тут трэба адзначыць, што на ўсіх удзельніках маёўкі была балючая жалоба, бо якраз два дні перад гэтым памёр у маладым веку адданы патрыёт Беларусі й выдатны грамадзкі дзеяч сьв. пам. Барыс Шчорс. Ягоная сьмерць будзе балюча адчувацца ў нашым беларускім грамадзкім жыцьці, бо ён да апошняга часу, не зважаючы на цяжкую хваробу, аддаваў усю сваю энэргію й здольнасьць для беларускай грамадзкай працы. Яго паважалі й высака цанілі ўсе людзі.

Дык няхай-жа ён, выдатны й адданы сын беларускага народу, спачывае ў вечным жыцьці там, дзе няма больш ні хваробаў, ні боляў. А памяць пра яго застанецца ў нас назаўсёды!

**Міхась Бахар**

